*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 14 (553)** **3 КРАСАВІКА 2002 г.**


## *Святкаванне Дня Волі ў Менску*

25 сакавіка ў зале Палаца ветэранаў, што ў цэнтры Менска, адбылася ўрачыстая імпрэза да 84-х угодкаў абвяшчэння БНР, якую наладзіла дэмакратычная грамадскасць краіны. Вечарыну вяла вядомая ў краіне артыстка Зінаіда Бандарэнка.

Першым выступіў старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка, які зачытаў вітальныя словы старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Наступны выступоўца, знаны палітык і перакладчык Лявон Баршчэўскі, распавёў пра досвед славакаў па прапагандзе сваёй дзяржаўнасці, якая далася ім, як і беларусам, нялёгка і паступова. Вядомая пісьменніца Вольга Іпатава згадала сваю тэлеперадачу на БТ, прысвечаную першаму з'езду БНФ, які адбыўся ў Вільні летам 1989 года. У гэтай перадачы гледачы ўпершыню пабачылі вольнае карыстанне нацыянальнай беларускай сімволікай на вуліцах і плошчах нашай старадаўняй сталіцы. Свае вершы, прысвечаныя Дню Волі, прачыталі паэты Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Андрэй Хадановіч.

Перад прысутнымі выступілі камерны хор "Унія", гурт "Старая Літва", барды Зміцер Сідаровіч і Аляксей Галіч. Цёпла сустрэлі прысутныя ахвяраў палітычнага рэжыму. Дэпутат Вярхоўнага Савета XIII склікання Андрэй Клімаў, які правёў у турме доўгія чатыры гады і выйшаў на свабоду сонечным ранкам якраз 25 сакавіка, у сваім слове адзначыў, што чалавека моцнага духам зламаць немагчыма, а часы цемрашальства і невуцтва неўзабаве павінны адысці ў нябыт. Потым выступілі тыя, хто пацярпеў ад чарговага "хапуна", арганізаванага ўладамі 24 сакавіка супраць людзей, якія прыйшлі з кветкамі да помніка Янкі Купалы. Сваімі ўражаннямі пра гэты гвалт падзяліліся пасля сутачнай адсідкі ў турме Павел Севярынец, сябра Рэвізійнай камісіі ТБМ Мікола Лавіцкі і старшыня Заводскай рады ТБМ г. Менска Пятро Русаў. Ад імя сваіх партый прамаўлялі Сяргей Альфер (АГП) і сацыял-дэмакрат Анатоль Гурыновіч.

Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў падкрэсліў, што ў змаганні за вольную, дэмакратычную Беларусь аб'яднаць беларусаў, такіх розных па сваіх палітычных поглядах і веравызнанню, можа толькі беларуская мова. Ён таксама прапанаваў прывітаць мужную беларускую моладзь, абаронцаў Курапатаў, якія ўжо шэсць месяцаў нясуць там сваю нязменную вахту. Потым сябры клубу "Спадчына" Анатоль Белы, Леанід Лыч і Рыгор Барадулін ушанавалі курапацкіх валанцёраў памятнымі медалямі і дыпломамі.

Адмысловую танцавальную кампазіцыю паказаў ансамбль "Госціца" пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч. Ад імя міжнароднага праваабарончага руху ўрачысты сход вітала вядомая адвакатка Вера Страмкоўская.

Напрыканцы імпрэзы прысутныя выканалі гістарычную песню "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". На вечарыне былі распаўсюджаны кішэнныя каляндарыкі ТБМ, прысвечаныя Браніславу Тарашкевічу і Міхасю Ткачову, а таксама нумар "Нашага слова", прымеркаваны да Дня Волі.

***Наш кар.***

# Не паспееш агледзецца, як пара бульбу садзіць



На ўсё наваколле славяцца майстрыхі Ніна Антонаўна Сацук і Вольга Платонаўна Курулюк з вёскі Залуззе Жабінкаўскага раёна. Разам вышываюць і робяць пруткамі, разам плятуць кошыкі, кожная трымае вялікае падвор'е. А яшчэ яны -- пастаянныя ўдзельніцы фальклёрнага калектыву "Багуслаўка".

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

## *Нацыянальнае свята ў беларусаў Літвы*

У нядзелю 24 сакавіка 2002 г. Таварыства беларускай культуры ў Летуве святкавала Дзень Незалежнасці – дзень прыняцця трэцяй устаўной граматы 25 сакавіка 1918 года. У Беларускім доме ў Вільні адбылося ўрачыстае паседжанне, якое вёў нязменны старшыня Таварыства Хведар Нюнька. Пад нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам і з выявай Пагоні на сцяне ўдзельнікі паседжання праслухалі дзяржаўны гімн Беларускай народнай рэспублікі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Былі абвешчаныя і прывітанні беларусам Летувы ад прэзідэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларускі Вольгі Іпатавай, палітычных дзеячоў Беларусі. З прывітаннем і віншаваннем выступіў прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Анатоль Грыцкевіч. Ён жа як прадстаўнік кіраўніцтва і рады Таварыства беларускай мовы перадаў беларусам Летувы каляндарыкі з выявамі М.Ткачова і Б. Тарашкевіча, асобнікі газеты "Наша слова", прысвечаныя Дню Волі.

Прафесар А.П. Грыцкевіч выступіў з дакладам аб 84-й гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі, нагадаў аб тагачасных гістарычных падзеях, аб сучасным становішчы ў Беларусі, пра барацьбу беларускіх патрыётаў, у тым ліку беларускай моладзі, за захаванне незалежнасці краіны і супраць інтэграцыйных працэсаў, якія вядуць да паглынення Беларусі імперыялістычнай Расіяй.

Выступіў па-беларуску і дэпутат літоўскага сойму сп. Станкевіч. Прагучалі таксама беларускія песні, якія выканаў сп. Андрусь Старавойтаў. Пасля ўрачыстасці адбылася сяброўская вечарына, асабістыя сустрэчы, абгаворваліся і надзённыя пытанні дзейнасці Таварыства беларускай культуры ў Летуве.

У той жа дзень адбыліся богаслужэнні на беларускай мове ў каталіцкім касцёле і праваслаўнай царкве. Таксама адбылася перамова з кіраўніцтвам Таварыства аб супрацоўніцтве з Управай Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў яго праграмах на 2002 год і аб рэгіянальнай канферэнцыі беларускіх суполак. Прынятыя агульныя рашэнні. Віленскія беларусы адзначылі неабходнасць патаянных кантактаў беларускіх арганізацый у Менску з беларусамі замежжа.

***Анатоль Грыцкевіч,***
***прэзідэнт Згуртавання беларусаў***
***свету "Бацькаўшчына".***

## *Святкаванне Дня Волі ў Аўстраліі*

Дарагія сябры!

Вялікі дзякуй за віншаванне з Днём Незалежнасці!

У Сіднейскім беларускім клубе ўжо адбылося святкаванне гэтага свята. Прыйшло больш за 50 асоб, з іх было шмат моладзі (упершыню). Я зрабіла даклад на гэтую тэму, а потым чыталі вершы. Напрыканцы ўсе праспявалі беларускі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". А потым быў смачны абед, спявалі беларускія песні.

Перад святкаваннем у клубе была праведзена царкоўная служба на беларускай мове (наш святар прыехаў сюды з Беласточчыны 10 гадоў таму) за шчасце і волю нашай Бацькаўшчыны. Некаторыя, у тым ліку і я, плакалі пры гэтым. Дай Бог шчасця і волі нашаму шматпакутнаму народу і вам асабіста.

Жыве Беларусь!

***Слава Лягенчанка – сябар***
***Дырэктарыту Беларускага***
***культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі***
***(Аўстралія).***

## *БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ КАВЯРНЯ*

У Горках на Магілёўшчыне запрацавала беларускамоўная дзіцячая кавярня. Яе адчыніла Аршанская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Дапамогу ў ажыццяўленні гэтай задумы аказала горацкая жаночая арганізацыя "Любава".

Адгукаючыся на просьбу грамадскіх актывістаў, мясцовыя ўлады бясплатна прадаставілі пад беларускамоўную дзіцячую кавярню пусты аднапавярховы будынак. Недзяржаўныя аб'яднанні афармілі памяшканне і пачалі ладзіць там культурныя імпрэзы. Паводле словаў аршанскага грамадскага дзеяча Алеся Шутава, першыя мерапрыемствы ўжо наведалі каля 100 чалавек.

Аматары роднага слова мяркуюць у далейшым арганізоўваць народныя святы, спектаклі ды іншыя забаўляльныя імпрэзы для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.

***Наш кар.***




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Аляксандр Пухоўскі (Менск) – 5.000
2. Нязнайка (Менск) – 3.000
3. Ціханаў С. А. (Менск) – 2.500
4. Міцкевіч Я. Ф. (Менск) – 5.000
5. Шутко Ларыса (Менск) – 2 $
6. Лавіцкі М. (Менск) – 3.000
7. Казлоўская Іна (Менск) – 1.000
8. Лягушоў Алег (Бабруйск) – 2.000
9. Шкірманкоў Ф. (Слаўгарад) – 5.000
10. Манаеў Алег (Менск) – 10 $
11. Петрукевіч В. (Менск) – 6.000
12. Манюк Ларыса (Наваградак) – 3.000
13. Шышканова Еўранія (Нясвіж) – 5.000
14. Карповіч Л. Э. (Лунна) – 6.000
15. Жытко Іван (Камянец) – 5.000
16. Лепельская ГА ТБМ – 18.000
17. Такуць С. Ф. (Гомель) – 3.000
18. Барт-Юрэвіч Надзея (Герм.) – 50 еўра
19. Каралёў Алесь (Жодзіна) – 5.200
20. Палсцюк Валер (Менск) – 5.000
21. Петруковіч Васіль (Менск) – 7.000
22. Раманчык Надзея (Наваградскі р-н) – 2.000
23. Будзянок Аляксей (Менск) – 2.000
24. Шпіко Іван (Камянец) – 5.000
25. Выдавецтва "Хата" (Менск) – 10.000

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Алесь Петрашкевіч

# Час усё адкрые...

*(Праціг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**IV**

*Гая ж царская палата. Аляксей Міхайлавіч за бясед3й з патрыярхам Н і к а н а м.*

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** "Казацкі бацька" больш за Рэчы Паспалітай баіцца сваіх падданых з народа ўкраіннага, якому ўжо няма на каго спадзявацца акрамя майго праваслаўнага царства. І як бы ні круціўся, ні лаўчыў, ні хітрыў атаман, а давядзецца яму нікому іншаму, а нам, ваша святейшаства, біць чалом і слёзна прасіць узяць зямлю украінную з яе насяленцамі пад маю высокую царскую руку.

**Н і к а н.** Прарочыя словы, вялікі гасудар. І я гатовы ўзяць душы хрысціянскія паствы ўкраіннай пад маю духоўную апеку.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Вялікі гасудар мой, ваша святейшаства, вы то гатовы, але гетман Януш Радзівіл нас апярэдзіў. Пры захопе Кіева гэты жорсткі чалавек змог быць і міласцівым, і справядлівым. Жаўнераў да рабункаў не дапусціў, а сам спыніўся ў харомах мітрапаліта Сільвестра Косава. І той радаваўся вызваленню з казацкага палону і пісаў каралю Яну Казіміру: "Натхнёна спяваю найвышэйшаму Пану: Табе Бога хвалім". Праваслаўныя іерархі ад праваслаўнага Багдана адвярнуліся, а цара ўсяе Русі і ваша святейшаства нават не ўспомнілі. Радзівілу ў саборах хвалу спявалі.

**Н і к а н.** Вялікі гасудар, прыйдзе Божы час, яны і нам хвалу і доўгія лета пець будуць.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Удалося б толькі далучыць Украіну да царства нашага і паству да царквы праваслаўнай маскоўскай, то безумоўна...

**Н і к а н.** Калі гаварыць пра ўмовы, то, спадзяюся, першай з іх, не гледзячы на магчымую вайну, будзе падтрымка ваша, вялікі гасудар, маёй царкоўнай рэформы, каб, як і ў Маскоўіі, на Русі ўкраіннай праваслаўныя вернікі хрысціліся не двума, а трыма пярстамі; і кланяліся б не на каленях стоячы, а нізка ў пояс.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** А па мне, даруй, як перахрысціўся, абы перахрысціўся. І паклон укленчыўшы, можа, Богу больш даспадобы, чым стоячы...

**Н і к а н.** Не паклоны і жагнанні самі па сабе галоўнае ў рэформе маёй, вялікі гасудар, а тое, што выпраўленне богаслужэбных кніг і абрадаў па-грэчаскаму узору, якія даўно прыняты ў паўднёва-славянскіх краінах, што знаходзяцца пад турэцкай няволяй. Якраз наша рэформа некалі дазволіць нам і дапаможа замяніць турэцкую няволю на маскоўскую апеку ды адсунуць межы нашы за межы паўднёвых славян хрысцвверных.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч** *(здзіўлена).* Далёка закідвае ваша святейшаства. Але на ўвазе трэба мець, што за раскол люду Масковіі я са святейшаства і спытаю.

**Н і к а н.** І тым не менш, просьба мая другая, каб маёй богаўгоднай — рэформе царкоўнай — ніхто не перашкаджаў, а баяры думныя і нават ваша вялікасць у тое, што я рабіць буду, не ўмешваліся. А на Украіне, яко ў Масковіі, я пакідаю за сабою права апавяшчаць аб дагматах Божых і правілах для царквы і яе пастараў. І слухацца патрыярха ўсяе Русі павінны не толькі міране і ўладатрымцы ў Масковіі і землях прырошчаных, яко начальніка, і пастара, і айца краснейшага.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Хто ж супраць вашага святейшаства нешта сказаць пасмее, калі я сам мілею сэрцам да друга майго собіннага і вялікім гасударом велічаю, як і мяне, цара, народ мой богабаязны велічае. І калі саюз свецкай і царкоўнай улады ў асобай двоіцы нашай будзе і надалей моцны і справядлівы, царства наша чакаюць поспехі небывалыя.

**Н і к а н.** Вялікі гасудар, я таксама, я ўжо зараз усёй істотай, душою сваёй адчуваю, што гэты час блізіцца, настае. Але што абяцае гэты грэшны і святы Хмяльніцкі?..

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Найперш, вядома, Украіну, а у дадатак, калі Бог дасць, ён дапаможа нам узяць і Вялікае княства Літоўскае, як плод саспелы.

**Н і к а н.** На што ён ад нас спадзяецца апроч волі сваёй і святога жадання?..

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Прэтэндуе на палкі і загоны свае, на сваё кіраванне, свае законы і суд, права выбіраць гетманаў, самастойных сувязяў з іншымі краінамі, захаванне маёмасных правоў, гарадскога самакіравання ды казацкі рэестр на 60 тысяч шабель.

**Н і к а н.** Як бы не склаўся лёс гэтага чалавека ў будучым, сёння быў бы вялікі грэх адказаць яму, не падтрымаць насуперак той жа Польшчы, якая з-за свайго рэлігійнага асляплення не захоча і ніколі не паабяцае такога. А мы павінны адкрыць нашы душы і нашы сэрцы насустрач рабу божаму Багдану, не зважаючы на сатанінскія паводзіны Мітрапаліта кіеўскага і іншых іерархаў. Абедня, якую я згодзен адслужыць, ваша вялікасць, вартая свечак! І я бачу сваёй прасветленай душой далучанымі да нашай дзяржавы не толькі Украіну і Вяліке княства Літоўскае але і Каралеўства Польскае.

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Вялікі гасудар, духоўны пастар мой, ваша святейшаства чытае думкі мае, як святыя пісьмёны!..

**Н і к а н.** І я хачу, каб ваша вялікасць ведала, што я не абмяжуюся пастырскімі блаславеннямі і малітвамі перад Госпадам аб прырашчэнні земляў нашых не толькі названых, але і не названых яшчэ. Я ўжо сёння гатовы ад імя патрыярхіі і свайго імя ахвяраваць на святую справу 10 тысяч рублёў, што пойдуць на пад'ём ратных людзей. З манастыроў жа і вотчынных архірэяў збяру на богаўгодную справу і хлеб, і падводы, і баявых коней. Абяцаю арганізаваць выраб зброі ў царкоўных вотчынах і пастаўлю яе воінству вашай царскай вялікасці ў імя перамогі над няверными як у Княстве, так і ў Каралеўстве.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Ваша святейшаства, друг мой сардэчны і аднадумца ў малых і вялікіх справах, няхай жа і надалей ратуе і ахоўвае Гасподзь наша адзінадумства і адзінагалоссе! І яшчэ, апора мая і надзея, ваша святейшаства, скажу, яко другу і паплечніку царскаму, што сам узначалю паход на Княства і Каралеўства, а таму давядзецца вашаму святейшаству, улюбёнцу майму, займацца справамі духоўна-царкоўнымі,і як у Масковіі, так і ў землях пакораных, а таксама самастойна вырашаць пытанні распарадча-дзяржаўныя і нават вайсковыя.

**Н і к а н.** Вялікі гасудар усяе Русі, я схіляю галаву перад братэрскім даверам да мяне, але пагаджуся быць вялікім гасударом на царстве толькі тады, калі ваша вялікасць падначаліць маёй уладзе камісію баярскай думы па нагляду за справамі дзяржаўна-вайсковымі і яна будзе падсправаздачная мне, як вялікаму гасудару, а рашэнні мае будуць замацоўвацца сцверджаннем: "Святейшы патрыярх указаў і баяры прыгаварылі".

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч** *(пасля доўгай паўзы).* Быць таму згодна волі вашага святейшаства.

**Н і к а н.** Быць згодна волі прамудрай двоіцы нашай і Гасподзь прывядзе нас да запаветнай мары, угоднай Богу.

**А л я к с е й М і х а й л а в і ч.** Я рады святой патрыяршай веры ў найлепшае.

**Н і к а н.** Сам Гасподзь спадобіў мяне верай. Ды як не верыць, калі ў раба божага Багдана няма іншага выйсця, як далучыць Украіну да царства нашага, а адзінаверцы нашы беларусцы з Вялікага княства спакон веку чакаюць Божага часу, каб на каленях прыпаўзці да нашага алтара ды расцерабіць нам дарогу на няверных ляхаў.

*(Падымаецца з-за стала, асяняе крыжам цара.)*

Бласлаўляю прамудрага цара ўсяе Русі на святую справу. *(Тройчы цалуецца з царом.)* Амінь.

*Сцэна зацямняецца.*

**V**

*Каралеўская палата. Я н К а з і м і р адзявае карону, бярэ вялікагетманскую булаву, няспешна садзіцца на пасад, некаторы час сядзіць у роздуме, потым звоніць у званочак. Адкрываюцца дзверы, уваходзіць Януш Р а д з і в і л у вайсковай вопратцы і пры шаблі.*

**Р а д з і в і л.** Маё шанаванне яснавяльможнаму каралю Рэчы Паспалітай двух народаў. *(Стрымана кланяецца).*

**Я н К а з і м і р.** Вітаю цябе, Януш, і недарэчны націск на тое, што Рэч Паспалітая з двух народаў, вялікадушна дарую... Даўно не бачыліся, слаўны воін.

**Р а д з і в і л.** Не па маёй віне...

**Я н К а з і м і р.** І ты зноў мяне абвінавачваеш.

**Р а д з і в і л.** Божа барані, слаўны кароль. Толькі ўдакладняю.

**Я н К а з і м і р.** Прадчуваю, што ты да мяне зноў з кепскімі весткамі, бо з добрымі Радзівілы аўдыенцыі не просяць.

**Р а д з і в і л.** Прадчуванне не абманвае яснавяльможнага караля. Весткі зусім не радасныя. Мае маскоўскія шпегі прынеслі горкую навіну: цар Аляксей Міхайлавіч прылюдна абвясціў ва Успенскім саборы, падрыхтоўку да вайны з Рэччу Паспалітай і пра сваё жаданне "идти на недруга своего польского короля".

**Я н К а з і м і р** *(адмахваецца, як ад надаядлай мухі).* Зноў бляфуе "вялікі гасудар", а ты паўтараеш.

**Р а д з і в і л.** Гэтым разам, на жаль, не бляфуе. Цар у хаўрусе з патрыярхам распачаў дзейсна рыхтавацца да вайны, хоць і да гэтага збіраў сілы. З Еўропы ў Маскву дастаўляецца зброя і порах. Вялікай колькасцю закупляюцца мушкеты і гарматы. На Маскву даўно запрошаны замежныя майстры гарматнага ліцця. Наймаюцца ратнікі і важары. Ажывіліся наезды ў Маскву татарскіх пасло͡ў і пасланнікаў.

**Я н К а з і м і р.** Хопіць! Хопіць ужо...

**Р а д з і в і л.** Я разумею, што хопіць, але ж цар перад еўрапейскімі манархамі загадзя апраўдваецца, паведамляючы ім пра "няпраўды" караля Рэчы Паспалітай. А імператара Фердынанда наўпрост прасіў не дапамагаць уладару Польшчы. Цар рыхтуецца сур'ёзна. А ў нас, нягледзячы на чатыры рашэнні сойму Рэчы Паспалітай аб выдзяленні сродкаў на ўмацаванне і догляд муроў у Смаленску і іншых замках усходніх ваяводстваў на працягу 15-і гадоў так і не было нічога зроблена. Каб не вылезла нам бокам наша скарэднасць...

**Я н К а з і м і р** *(амаль крычыць).* Ты не першы раз палохаеш караля маскоўскім царом з адной запаветнай мэтай авалодаць вялікай гетманскай булавою. *(Патрасае булавою.)*

**Р а д з і в і л.** Не абражай мяне, яснавяльможны кароль! Я — Радзівіл!

**Я н К а з і м і р.** А я сам палкаводзец! І сам у якасці гетмана найвышэйшага буду кіраваць польскім і, між іншым, вялікакняскім войскам, калі гэта спатрэбіцца.

**Р а д з і в і л.** Войскамі нельга кіраваць *між іншым.* Ці каралеўская вялікасць яшчэ ў гэтым не пераканалася.

**Я н К а з і м і р** *(агрэсіўна).* Я хутчэй страчу карону, чым аддам гэту булаву Радзівілам!

**Р а д з і в і л** *(стрымана).* Я не думаю, што ўсе Радзівілы равуцца да вялікай булавы. Асабіста ж я папрасіў аўдыенцыі дзеля таго, каб сказаць каралю, што мяне абураюць брыдкія інтрыгі каралеўскага атачэння, што чыняцца на зло, а то і на загубу Вялікаму княству Літоўскаму. І *не між іншым,* княству, у якім Радзівілы займаюць зусім не апошняе мейсца!

**Я н К а з і м і р.** Ці не таму Януш Радзівіл у сваіх інтрыгах супроць караля Рэчы Паспалітай, як табе здаецца, двух народаў выкарыстоўвае Валахскага гаспадара Ракашы і раіць апошняму рыхтаваць сабе дарогу да каралеўскага пасаду Рэчы Паспалітай?! Я папярэджваю, што для Януша Радзівіла гэта можа скончыцца кепска.

**Р а д з і в і л.** Не трэба пагражаць таму, хто шаблю ў руцэ трымае, кажучь ліцвіны. Я дазволю сабе канкураваць на булаву, але не валодаць ёю!.. Я пакідаю цябе, яснавяльможны кароль.

**Я н К а з і м і р** *(разгублена).* У якім сэнсе?..

**Р а д з і в і л.** Пакідаю цябе з булавою, а сам вяртаюся ў Княства збіраць войска, каб было чым бараніць сваю Айчыну, а тым самым — і тваю. Гонар маю!

*(Шпарка выходзіць і ў дзвярах сутыкаецца з гетманам Г а н с е ў с к і м, але не спыняецца).*

**Я н К а з і м і р.** Бачыў, Вінцэнт, як ён ад мяне выляцеў?

**Г а н с е ў с к і** *(вельмі ўстрывожана).* Даруйце, ваша каралеўская вялікасць! Вястун з Масквы. Цар разрывае мір з Рэччу Паспалітай з прычыны таго, што ў лістах польскай і вялікакняскай шляхты няправільна пішуцца тытулы "великого государя", а ў нашых кнігах зневажаецца царскі гонар.

**Я н К а з і м і р** *(як стогн).* Насланнё апраметнай!..

**Г а н с е ў с к і** *(таропка, спуджана).* І яшчэ, яснавяльможны кароль: на земскім саборы з падачы цара і патрыярха баяры яшчэ 1 кастрычніка прыгаварылі *(заглядае ў паперку):* "За гонар цароў Міхайлы і Аляксея стаяць і супраць польскага караля вайну весці, а цярпець гэтага больш нельга".

*Ян Казімір ускоквае з пасада, булава ляціць на падлогу, ён выхопліве паперку з рук Гансеўскага.*

**Я н К а з і м і р** *(дачытвае).* "Гетмана Багдана Хмяльніцкага і ўсё войска запарожскае з гарадамі іх і землямі каб гаспадар вялікі ўзяць волю прыняць пад сваю высокую руку дзеля праваслаўнай хрысціянскай веры і святых Божых цэркваў". *(Крычыць.)* Вярні Радзівіла, Гансеўскі!!!

*Сцэна зацямняецца.*

*(Праціг у наступных нумарах.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 04. 2002 г.
Наклад 2800 асобнікаў. Замова № 701.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.